# ПАСЛЯ СМЕРЦІ НЕРУ

Хоць смерць чалавека, маючага 75 год, не можа быць нечаканасцю, аднак смерць прэм'ера Індыі Неру была прынята ўсім светам іменна так.

Неру, незаўрадная індывідуальнасць і вялікі палітык, адыграў выключную ролю ў гісторыі стварэння незалежнай Індыі.

50 год назад лёс звязаў маладога тады юрыста з партыяй Індыйскі Нацыянальны Кангрэс, тварцом і ідэолагам якой быў Гандзі. Неру засвоіў палітычна - грамадскія погляды Гандзі і застаўся ім верны да апошніх дзён жыцця. Галоўнае, быў глашатаем міру.

У час прабывання ў Варшаве, у 1955 годзе выразіў думку, якую шырока развіў у сваёй кніжцы «Адкрыццё Індыі», напісанай у англійскай турме ў гады другой сусветнай вайны: «Гандзі, — гаварыў Неру, — вучыў нас больш за ўсё цаніць мір. Але мір дзейсны і стваральны».

Гэтая думка не вывела Неру на пазіцыі рэвалюцыянера ў нашым разуменні гэтага слова. Згодна з тэорыяй гандзізму, Неру бачыў шлях да вызвалення ў пазіцыі пасіўнага супраціўлення імперыялістам. У выпадку Індыі гэта быў правільны шлях. Аднак вызваленне ён трактаваў шырэй, сцвярджаючы, што барацьба за мір — гэта працяг барацьбы за нацыянальнае вызваленне. Пакуль дзяржавы і народы будуць спаборнічаць у гонцы ўзбраення, датуль іх намаганні не прынясуць грамадскай карысці. Іменна гэтая думка адрознівала Неру ад пацыфістаў, ставіла яго ў рады барацьбітоў за справы міру і свабоды.

Неру ніколі не быў марксістам. Аднак прызнаваў перавагу асноўных падстаў сацыялізма — грамадскай роўнасці і калектыўнай уласнасці на сродкі прадукцыі. Нямала ўлажыў сіл у тое, каб гэтыя падставы ўводзіць у жыццё ў складаных умовах Індыі. Ліквідацыя ў Індыі каст і развіццё дзяржаўнай прамысловасці — гэта асабістая яго заслуга.

Неру быў індывідуальнасцю, якая накінула краіне дэмакратычны характар улады і палітычнае адзінства кіруючай Партыі Нацыянальнага Кангрэса. Таму нельга здзіўляцца, што пасля яго смерці сталм перад пытаннем: якой будзе Індыя без гэтага правадыра? Сёння цяжка яшчэ сфармулаваць адказ на гэта пытанне. Трэба ўсведаміць сабе цэлы шэраг праблем, якія без такога аўтарытэту, якім быў Неру, пачнуць адыгрываць ролю ў далейшай гісторыі Індыі. Напрыклад, такая праблема, як утрыманне адзінства грамадства, якое гаворыць на розных мовах, мае розную культуру і традыцыі. Або праблемы ўнутранага адзінства Партыі Нацыянальнага Кангрэса, разбітай сёння выразна на некалькі фракцый. Неру аб'ядноўваў партыю значна больш сваім аўтарытэтам, чым акрэсленай ідэяй. Нельга забываць, што ў мінулым членаў гэтай партыі аб'ядноўвала ідэя нацыянальнага вызвалення.

Аднак разам з атрыманнем незалежнасці ў 1947 годзе радыкальная частка членаў Кангрэса перайшла ў камуністычную або сацыялістычную партыі. З часам у партыі Кангрэса пачалі заваёўваць перавагу кансерватыўныя сілы, для якіх сацыялістычныя лозунгі былі пустой фразай. І толькі індывідуальнасць Неру стрымлівала партыю ад кансерватыўных крокаў.

Сёння толькі адно можна сказаць напэўна: калі верныя прыхільнікі Неру не возьмуць лёсы партыі і народу ў свае рукі, дык Індыі можа грозіць раскол унутраных сіл і падзенне палітычнага прэстыжу, якім яна цешыцца ў вачах перадавых людзей свету.

Але гэта толькі магчымасць, якая можа не здарыцца. Бо гэтая магчымасць не ўлічвае народных мас, якія робяцца ўсё больш актыўнымі і вельмі прывязаны да існаваўшых форм улады.

Няхай жа сябрам Індыі дазволена будзе выказаць думку, што апошняе слова застанецца за сотнямі мільёнаў індусаў.

**У. ЛАЗІНСКІ**




# НАША АКНО

Мора, як звычай, называюць акном краіны ў шырокі свет. Акно гэтае цяпер у нас вялікае. Яго шырыня перавышае 500 км. Не тое, што перад 1939 годам. Няма нават параўнання. Хвараблівы арганізм даваеннай Польшчы спалучала з морам вузкае горла, так званы «калідор», па абодвух баках якога растапырваў свае кіпцюры гітлераўскі каршун. Марское багацце панскай Польшчы — гэта 72 км зусім не загаспадараванага берага і адзін праўдзівы паўнаморскі порт — Гдыня.

Гістарычныя перамены, якія адбыліся ў 1945 годзе, паставілі нашу народную Айчыну ў шэрагу буйных марскіх краін. Пачынаць прыйшлося аднак ад нічога, а дакладней — ад чысткі развалін.

Уявіце сабе гаспадара без бараны і плуга. Таксама не мае ніякага значэння ў свеце марская краіна без портаў і суднаў. Парты Шчэцін, Калабжэг, Устка, Дарлова, Гдыня і Гданьск знішчаны, завалены разбітымі і затопленымі караблямі. Суднаў, пераважна маленькіх, ледзь на лякарства.

І вось лістапад 1948 года. На воды Балтыйскага мора сплывае першае судна, пабудаванае польскімі рабочымі і канструктарамі. Атрымоўвае яно імя «Солдэк» — імя рабочага, ударніка сацыялістычнага спаборніцтва, які найбольш адзначыўся пры пабудове гэтага судна. У трумах «Солдка» плыве ў свет польскі вугаль, а вяртаючыся на айчыну, «Солдэк» прывозіць патрэбную нам руду.

Ад гэтага часу прайшло ўжо 15 год. Будуюць судны не толькі ў Гданьску. Працуюць верфі (сточні) ў Шчэціне, у Гдыні і ў Эльблонгу. Але суднабудаўніцтва Гданьска ўсё яшчэ застаецца найбольш магутным.

Пачаўшы ад 1955 года, будуюць тут шматлікую серыю «дзесяцітысячнікаў» — суднаў, грузападёмнасць якіх даходзіць да 10-ці тысяч тон. Гэтую серыю адкрывае маторнае судна «Марцэлі Навотка». Гэтыя судны знаходзяць шматлікіх набыўцаў за мяжой — асабліва ў Савецкім Саюзе.

У 1959 годзе гданьская верф прыступае да пабудовы амаль у два разы буйнейшага судна. Аднак славу ў свеце гданьская верф здабывае дзякуючы суднам - базам для паўнаморскага рыбалоўства. Будаваныя ў Гданьску судны - базы з'яўляюцца па сутнасці плаваючымі фабрыкамі. Ад 1961 года ў Гданьску пабудавана ўжо больш 30 гэтага тыпу суднаў.

Быўшы рабочы Солдэк з'яўляецца цяпер інжынерам і далей працуе ў Гданьску, будуе судны.



**На здымку:**
**Першы дзесяцітысячнік «Марцэлі Навотка» сплывае ў мора.**

СПОРТ

# „КАРАЛЕВА СПОРТУ" РЫХТУЕЦЦА ДА ТОКІО

Хоць усе мы цяпер перажываем футбольную гарачку (фініш ліг), аднак цяжка не ўспомніць аб лёгкаатлетыцы. «Каралева спорту» заўсёды спачатку ўступае месца ў газетах іншым відам спорту, але іменна ў чэрвені прыпамінае аб сабе. Спартсмены старанна рыхтуюцца да алімпійскага сезона і дакументуюць гэта серыяй выдатных вынікаў, якія яшчэ толькі прадказваюць вялікі сезон і шэраг новых рэкордаў.

У легкаатлетыцы кожнае спаборніцтва (вядома, калі ўдзельнічаюць найлепшыя спартсмены) можа прынесці рэкордныя вынікі. Каб не празяваць нейкага рэкорда, трэба сачыць вельмі ўважна і пільна. Бо рэкорды не арганізоўваюцца, а проста... пабіваюцца. У футболе, напрыклад, вядома, што ў акрэслены дзень адбудзецца сустрэча, значыць, трэба даведацца, чым яна скончылася. А ў легкаатлетыцы апрача вялікіх афіцыяльных сустрэч рэкорды могуць быць пабіты пры менш значных сустрэчах, на таких, аб якіх мы нават не ведалі.

Вельмі добра пачалі сёлеташні сезон савецкія легкаатлеты. Шчэлканава па скачках у даўжыню дасягнула сусветны рэкорд, скочыўшы на 6 м 42 см, а мала вядомы Аляксенаў кінуў капʼё на 80 м 61 см.

Выдатную форму паказалі і амерыканскія лёгкаатлеты. Лёнг шпурнуў ядро на 20 м 30 см і ўстанавіў новы сусветны рэкорд. А Бастону не хапіла толькі 2 см да сусветнага рэкорда па скачках у даўжыню.

Сусветнага рэкорда дабілася таксама спартсменка ГДР Бальцэр у бегу на 80 м з перашкодамі, прабегшы гэтую адлегласць за 10,5 сек.

А як пачалі сезон нашы легкаатлеты? Два рэкорды Польшчы (Чэрнік скочыў у вышыню на 2 м 15 см і Бадэнскі прабег 400 м за 45,9 сек) гавораць аб добрым пачатку.

Алімпійскія гульні ў Токіо актывізавалі ўсіх падданых «каралевы спорту» на салідныя трэніроўкі, а вядома, што кожная старанная праца дае вынікі.

**Л. ТАРАСЕВІЧ**

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

# Уладзімір Станкевіч
# АДЗІН З МНОГІХ

23)

Доктар, агледзеўшы мяне, сцвердзіў у шчыце правага лёгкага дзірку. Даведаўшыся, што я быў палітвязнем, не ўзяў ад мяне ані гроша за лячэнне і рэцэпты, а нават даў мне 10 штук уколаў, за якія не прыняў заплаты. Патрэбныя лекі, а таксама грашовую дапамогу на ежу даў мне МОПР. Шмат дапамагла мне цётка, у якой адбываліся калісь мае спатканні з «Сашай». Бацька зарабляў толькі 40 злотых у месяц, а я работы дастаць не мог, ды і не быў да яе прыдатным са сваім станам здароўя. Зарэгістраваўся як беспрацоўны і чакаў на якую-небудзь работу. Кніжка беспрацоўнага з таго часу захавалася нейкім чынам да сёння — сведак таго часу.

Акружны камітэт партыі пастанавіў адносна маёй далейшай дзейнасці наступнае: да часу выздараўлення магу заняцца толькі легальнай дзейнасцю ў прафсаюзным руху. Я не пагадзіўся з гэтай пастановай і напісаў да Цэнтральнага Камітэта Партыі, дамагаючыся дапушчэння мяне да далейшай актыўнай нелегальнай дзейнасці. ЦК аднак зацвердзіў пастанову акружкома.

У тым часе партыя вяла асабліва актыўную работу сярод беспрацоўных, колькасць якіх у Польшчы страшэнна ўзрастала. І я, як беспрацоўны, атрымаў ад партыі спецыяльнае заданне — арганізаванне ў Гродне беспрацоўных.

У гродзенскіх прафсаюзах у той час камуністы мелі вялікія ўплывы, а ў некаторых (як пекараў, краўцоў, гарбароў, будаўнічых) панавалі поўнасцю. Гэта дапамагала нам у арганізаванні адзінага фронту барацьбы, да якога ахвотна нават далучыліся кіраўнікі Польскай Сацыялістычнай Партыі, на чале якой у Гродне быў Станіслаў Ражкоўскі і кіраўнікі яўрэйскага Бунду, на чале якога быў у Гродне Саламон Гурвіч (цяпер актыўны дзеяч ПАРП і Яўрэйскага грамадска-культурнага Таварыства ў Польшчы). Станіслаў Ражкоўскі быў і старшынёй Гродзенскай акружной прафсаюзнай камісіі. Ужо ў сакавіку ўдалося мне атрымаць згоду акр. прафсаюзнай камісіі на ўтварэнне пры ёй секцыі беспрацоўных. У красавіку секцыя ўжо існавала афіцыйна. Старшынёй яе быў наш добры сімпатык Антон Мат'яш, а сакратаром я. Да канца красавіка секцыя налічвала ўжо звыш 600 членаў. (Мой членскі білет таксама захаваўся).

Ад палавіны красавіка мясцовыя гродзенскія ўлады пачалі «думаць» пра беспрацоўных — пачыналі розныя сезонныя, пераважна каналізацыйныя работы, на якія прымалі беспрацоўных, даючы ім па два дні работы на тыдзень і па 1,50 зл. за дзень цяжкой работы. Атрымаў і я работу на каналізацыі.

Перад 1 Мая я быў арыштаваны разам з многімі вядомымі шпікам камуністамі. Выпусцілі нас 3-га мая. Але, нягледзячы на шматлікія арыштаванні, першамайская дэманстрацыя ў Гродне была люднай. На дэманстрацыю вышла звыш 4 тысяч беларускіх, польскіх і яўрэйскіх працоўных. Пасля дэманстрацыі адбыўся мітынг, на якім прысутнічала каля 8 тысяч асоб. З гарачай прамовай выступіў рабочы-беларус, які заклікаў да барацьбы супраць вайны, у абарону Савецкага Саюза, супраць фашысцкага тэрору, за ліквідацыю канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе, за адзіны антыфашысцкі фронт.

Ад пачатку мая мы пачалі паспяхова рыхтаваць працуючых сезонна беспрацоўных да забастоўкі. Заданне было нялёгкае, бо каля 800 беспрацоўных працавала ў 16 групах у розных месцах горада. Прытым гэтыя людзі ўсю зіму не працавалі, а ў хаце былі галодныя жонкі і дзеці. Але нам удалося ў кожнай групе здабыць па некалькі добрых актывістаў секцыі беспрацоўных і праз іх моцна падрыхтаваць забастоўку.

19 мая 1936 года пачалася ў Гродне «польская забастоўка» беспрацоўных, у якой узяло ўдзел каля 800 асоб. «Польская» — гэта значыць, акупацыйная, бастуючыя ўвесь час забастоўкі знаходзяцца на месцы працы і пільнуюць, каб не пачалі працаваць штрэйкбрэхеры. Гэтая забастоўка трывала аж тры тыдні. Бастуючыя ў кожным забастовачным пункце выставілі транспарант з напісам «Перамога або смерць». За некалькі дзён да забастоўкі прылучыліся рабочыя камунальнай гаспадаркі і колькасць бастуючых узрасла да 1.200 асоб.

Я быў старшынёй забастовачнага камітэта. Тыдзень часу ўлады маўчалі, лічылі, што галодныя людзі без працы доўга не вытрымаюць. У канцы тыдня аднак пан стараста папрасіў да сябе на канферэнцыю забастовачны камітэт. Па дарозе да староства падышлі да нас два шпікі і загадалі, каб я ішоў з імі ў дэфензіву на размову з «панам камісарам».

Нягледзячы на пратэсты ўсіх членаў камітэта, забралі мяне з сабою ў дэфензіву.

Прыйшоўшы да старасты, заявілі, што не распачнуць размовы, пакуль не будзе з імі разам Станке-

(Працяг на стар. 4)

# ПАРТЫЗАНСКІЯ СУСТРЭЧЫ



На сустрэчы ў кавярні прафсаюзаў у Беластоку.

Сонечны майскі дзень. Ад савецкага боку дзяржаўнай граніцы набліжаецца група людзей. Сярод іх невысокі, шчуплы чалавек. Вітаецца з польскімі сябрамі, якія чакаюць гасцей у Кузніцы. Вось падае руку росламу палкоўніку. Твар палкоўніка выдаецца знаёмым. Глядзяць адзін другому ў вочы.

— Скажы, палкоўнік, можа ведаеш, ці жыве мой лепшы сябра, Анацік? У партызанах мы яго Валодзем звалі.

Палкоўнік глядзіць, а вочы смяюцца.

— Што, не пазнаеш мяне, Мартынаў?! — гаворыць палкоўнік польскага войска, былы партызанскі камандзір Ян Анацік і ўжо цісне ў абдымках былога партызана, камандзіра партызанскай брыгады «У імя Радзімы» Міхася Янкоўскага.

Была гэта яго першая нечаканая, але якая ж прыемная сустрэча з былымі баявымі сябрамі. Пасыпаліся потым другія. Аказію стварыла Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку. Яно наладзіла 22 мая г.г. папулярна - навуковую сесію, прысвечаную барацьбе рускіх, беларусаў і палякаў з гітлераўскімі акупантамі на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны.

Прайшло 20 год. Валасы ў многіх пасівелі і пабялелі, плечы крыху прыгорбіліся, на тварах паявіліся новыя зморшчыны. Аднак, калі былыя партызаны і сувязныя пацiскаюць руку, вітаючы свайго камандзіра, калі гавораць аб сваіх баявых подзвігах — у вачах запальваюцца агеньчыкі маладосці.

— Мае ўражанні? Галава шуміць ад уражанняў! — сцвярджае Міхась Янкоўскі. — На кожным кроку сустракаеш людзей, дзякуючы якім мы маглі жыць і ваяваць. Вось гляньце на падпалкоўніка Міхася Палеха, — паказвае афіцэра ў мундзіры лётчыка. — Я яго ведаў вясковым пастушком, калі быў нашым сувязным, а цяпер ён камандзір, палкаводзец, грудзі яго ў крыжах! Ці ж не радасна бачыць такое!

Удзельнікі сесіі выслухалі цікавыя даклады. Яны напоўна пашыраць нашы веды пра гады фашысцкай акупацыі на Беласточчыне.

Аднак не менш важным момантам сесіі былі сустрэчы былых партызан. Вось **Аляксей Карпюк**. Цяпер ён жыхар Гродна, беларускі пісьменнік, які ў сваіх кніжках раскрыў не адну тайну партызанскай вайны і зверстваў гітлераўцаў. Калісьці камандаў **атрадам імя Кастуся Каліноўскага**. Маладосць сваю правёў у вёсцы Страшава, што ў Беластоцкім павеце. Пасля сесіі сустракаўся ў многіх мясцовасцях з насельніцтвам Беласточчыны. Але сустрэча, якую меў у сваёй роднай вёсцы, пакіне асаблівы адпячатак у яго памяці. Тут ён калісьці бегаў у кашулі, а цяпер прыехаў сюды як герой - партызан і вядомы пісьменнік. Хутка паявіцца ў кнігарнях апошняя кніжка Аляксея Карпюка «Лясная Адысея», у якой ён апавядае аб баявых дзеях свайго партызанскага атрада.

Савецкія госці паехалі дамоў. Але тут, у Польшчы, сярод беларусаў і палякаў засталіся многія іх сябры і не толькі тыя, з якімі яны супольна калісьці партызанілі.

**В. Р.**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЧАМУ НЕ ПАСПРАБАВАЦЬ?

Ёсць у нас сяляне, што любяць навінкі. Мне давялося сустрэць у Бельскім павеце доследныя плантацыі земляной грушы — тапінамбур. У Храбустоўцы (Гайнаўскі павет) усё больш высяваецца ільнянкі. У апошні час пачынае папулярызавацца ў нас матылькова раслiна — афрыканскі лендзвян. Ёсць шмат плантатараў лекавых раслін.

У прыродзе мы сустракаем тысячы розных гатункаў раслін. Калісьці, вельмі даўно, усе яны былі дзікімі. Чалавек толькі збіраў іх. Клубні, насенне, плады, якія можна было есці, звароччвалі на сябе ўвагу людзей. Пазней людзі пачалі іх вырошчваць, яшчэ пазней пачалася карпатлівая праца над паляпшэннем якасці і вывядзеннем новых гатункаў, найбольш патрэбных і прыдатных для чалавека.

Сёння ёсць ужо шмат высакаякасных гатункаў. Напрыклад, працэнт цукру ў цукровых бураках павялічыўся з 2—3 да 18. Таксама і колькасць крухмалу ў бульбе. Ураджай бульбы з гектара сёння дасягае 450 ц. Аднак ёсць яшчэ шмат раслін, аб якіх мы ведаем вельмі мала. Варта паспрабаваць, бо толькі ж смеласць гарады бярэ.

Напрыклад, белая гарчыца. Яе насенне мае ў сабе каля 30% алею. Ураджай дасягае 6—15 ц. Расліна не баіцца замаразкаў. Гэта дазваляе высяваць яе раней. Не любіць пяскоў і гліны. Угнаенне: 150 кг суперфасфату і па 100 кг салетры і калійнай солі.

Алеістай раслінай з'яўляецца таксама **катран абісінскі.** Ураджай дасягае 20 ц з га, а колькасць алею даходзіць да 30%. Не ўдаецца на пясках і на глінах. Угнаенне: 225 кг суперфасфату, 175 кг калійнай солі і 100 кг азатняку.

Вельмі добрыя вынікі дае вырошчванне алеістай рэпкі. Яна мае ў сабе да 35% алею. Не вельмі атрабавальная да глебы. Ураджай — 15 ц. з га. Угнаенне — як для катрану.

Варта пацікавіцца і алеістай дыняй, якая дае 300—700 ц сакавітых кармоў і 3—8 ц насення. Але яна патрабавальная да глебы і ўгнаення. Даем поўную норму гною ды яшчэ 100 кг салетры, 200 кг фосфарных угнаенняў і 125 кг калійнай солі.

Прапануем таксама паэксперыментаваць над клешчавінай (рончнік). Глебы найлепш сярэднія, але добра акультураныя. Угнаенне: 100 кг салетраку і 250 — 300 кг суперфасфату.

Звярніце ўвагу і на алеісты сланечнік. Ураджай 10—20 ц з га. Восенню заворваем гной, а апрача гэтага даем 250 кг суперфасфату, 225 кг калійнай солі і 250 кг азотнага ўгнаення.

Доследы праводзім на малых палетках. Удасца ці не ўдасца, а паспрабаваць можна.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# ДЗЯДУЛЯ АКСЕНЦІЙ

— Вось вы! Смяецеся, што я ў кажуху і каўпаку, калі на двары паліць чэрвеньскае сонца? Дарэмна смяецеся! Калі дажывеце маіх гадоў, дык і вы захочаце хадзіць у кажуху нават у ліпені.

— А колькі вам год, дзедку?

— Без трох дзевяноста, 87 год ужо хаджу па гэтым свеце.

— А як вашае здароўе?

— Байкі.

— Што вам найбольш трывала запамяталася са свайго доўгага жыцця?

— Вось адзін, халера, тут у Чыжах вінаваты мне грошы. Я выправіў яму авечыя скуры, абяцаў, што прынясе і не прынёс, гультай! Дык я прышоў адабраць у яго гэтыя грошы.

— Дык вы не жывеце ў Чыжах?

— Не. Я жыву ў вёсцы Ракавічы — 5 кіламетраў ад Чыжоў.

— Ці яшчэ дапамагаеце сваім у працы?

— Я выпраўляю скуры, значыць дублю.

— А як вы завецеся?

— Аксенцій Ігнацюк.

— Жадаем вам здароўя.

Тэкст і фота **В. Р.**

# АДЗІН З МНОГІХ

(Працяг са стар. 2`

віча, выбранага бастуючымі членамі забастовачнага камітэта. Вярнуліся ў будынак Акружной прафсаюзнай камісіі, не распачаўшы перагавораў.

Мяне спаткаў у дэфензіве камісар наступнымі словамі:

— Ну, што ж, правадыр беспрацоўных, паедзем у Картуз-Бярозу на адпачынак...

— Калі так трэба, дык паедзем, — адказаў я.

—Але ж можна і не ехаць, вы ж ведаеце, што там многа горш, чым у турме. Адмоўцеся ад кіравання забастоўкай, дык не паедзеце, — запрапанаваў камісар.

— Я з'яўляюся такім самым галодным беспрацоўным, як і ўсе бастуючыя. Мы цвёрда вырашылі ўсе супольна — перамога або смерць. Не страшце мяне Картуз-Бярозай, — станоўча заявіў я.

Пасадзілі мяне ў арышт. На ўсіх бастуючых пунктах з'явіліся транспаранты з напісам: «Звольніць сакратара секцыі беспрацоўных Уладзіміра Станкевіча!»... А калі да пунктаў падыходзілі паліцыянты ці шпікі, бастуючыя крычалі і патрабавалі звальнення мяне. На трэці дзень майго арышту, стараста паклікаў да сябе бастуючы камітэт. Пайшоў да старасты толькі Ражкоўскі як старшыня Акружной камісіі прафсаюзаў і заявіў яму, што забастовачны камітэт не прыдзе, пакуль будзе арыштаваны Станкевіч. Увечары мяне звольнілі. Мы вырашылі, што я не буду хадзіць на размовы да старасты і наогул да канца забастоўкі буду сядзець у памяшканні прафсаюзаў пад аховай рабочых, бо дайшлі нас весткі, што павязуць у Картуз-Бярозу.

# СТАРАЯ МАЦІ, ДОЧКІ І СЫН

Старая маці, Марыя Альховік, была патрэбна дочкам і сыну да таго часу, пакуль магла хоць палоць агароды. Цяпер непатрэбная яна, ляжыць моцна хворая ў хаце ўнучкі. Дарэчы, унучка таксама хварэе ў беластоцкай бальніцы...

Марыя Альховік мае 88 год. Апякуецца ёю муж унучкі Мікалай Кісель, крынкаўскі шавец. У яго хаце, у Крынках пры вуліцы Царкоўнай 4, дажывае сваю старасць. Прасіла, каб наведалі яе дочкі, сын. Сын Міхась, які жыве на 10-гектаровай матчынай гаспадарцы ў Шудзялаве, заехаў раз у хатку пры вуліцы Царкоўнай, закруціўся на момант і паехаў, больш не паказаўся. Пасажная дачка, Сцёпа, нагогул не паказвае вачэй, а Вера, праўда, не брала пасагу да сваёй слаянскай гаспадаркі, але гэта зусім не значыць, што і ёй можна пакідаць матку ў нішчасці.

Прыгарнуў яе, як кажуць, чужы - чужанец. Часамі, у патрэбе, дапамагае кісялёвая суседка Вера Мянько. (ся)

# Грамадская праца школьнікаў

Школьнікі ўсіх класаў (апрача XI, бо вядома, экзамены на атэстат сталасці) Бельскага беларускага ліцэя шмат часу папрацавалі грамадскім чынам пры перабудове прышкольнай вуліцы. Будзе тут пралажаны асфальт.

Фота **В. Рудчык**



# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕ ДАЮЦЬ ДАЗВОЛУ

У сакавіку ў нашай вёсцы быў арганізаваны тыднёвы курс язды на веласіпедзе. Усе вывучалі дарожныя знакі і правілы язды па дарогах. На курсе было 34 слухачы. Урокі вёў настаўнік Аляксандр Закройшчык. 3 красавіка працаўнікі дарожнага аддзела прэзідыума ПРН у Гайнаўцы правялі экзамен, які ўсе добра здалі. Пасля экзамена адбылася гучная вечарына.

З таго часу мінула ўжо два месяцы. Але да сёння нам не прыслалі пасведчанняў — дазволу язды на веласіпедзе. А без гэтага дазволу нельга нідзе выехаць, таму што міліцыя лепіць мандаты. Як бачым, з-за несалідднасці працаўнікоў дарожнага аддзела многа клопатаў мае наша моладзь.

**Марыся Касцючук**
вёска Кленікі

### Ашчадным — матацыклы

Дваццатага мая г.г. у Цэнтральнай сядзібе ПКО ў Варшаве адбылося чарговае лясаванне матацыклаў, якія прызначаны на прэміі для ўласнікаў матацыклавых ашчадных кніжак. З ліку 65 разлясаваных матацыклаў 3 прызналі грамадзянам Беластоцкага ваяводства. Падобныя лясаванні ПКО праводзіць кожны месяц. Па дарогах Беласточчыны ездзяць зараз 136 матацыклаў, атрыманых уласнікамі спецыяльных кніжак ПКО за ашчаднасць і цярплівасць. (мф)

### Меліярацыя

Сенажаці Ляшукоў і Міхноўкі вясною і восенню заўсёды былі заліты вадою. У час сенакосу сяляне выносілі сена на грудкі і там яго сушылі. І вось на пачатку красавіка сяляне прывязлі землекапалку і прыступілі да меліярацыі. Зараз працуе каля 70 чалавек пры капанні равоў. Пройдзе год і нашыя сенажаці будуць і асушаныя і ўраджайныя.

**Яўген Рэнт**
вёска Міхноўка

### Крама і кавярня

Крама ў нашай вёсцы зараз у новым памяшканні. Займае яна палавіну сялянскай хаты. У другой палавіне будзе кавярня. Зараз ідуць падрыхтовачныя працы. Кавярня — гэта зусім новае на вёсцы. І гэтага новага ўсе з зацікаўленнем чакаюць.

**Мікола Лаўрашук**

### Наша краўчыха

У Навінах ёсць шмат краўчых. Найлепшай з іх з'яўляецца Анна Карнецкая. Яна і добра шые і танна бярэ за работу. Таму заўсёды ў яе многа кліентаў. У вёсцы нашай усе жыхары з пашанай і ўдзячнасцю адносяцца да Анны Карнецкай.

**Ваня Ялінік**

### Харавы калектыў

У Дні асветы кніжкі і друку Дом культуры ў Орлі арганізаваў харавы калектыў з 20 асоб, якім кіруе Міраслаў Кадзевіч. Харавы калектыў інтэнсіўна рыхтуецца да выступленняў у другой палавіне ліпеня, на адзначэнне XX гадавіны Народнай Польшчы. Апекуном арганізаванага хору з'яўляецца Арлянскі ГС на чале з Прэзэсам Анатолем Адзевічам.

**Назіральнік**
Орля

**ЦІ ВЫ ўжо падпісаліся на „НІВУ"?**

## ЗАБЫЛІСЯ

У нашу вёску кожны год прыязджала кінаперасоўка. Заўсёды многа было гледачоў. А калі дэманстраваліся савецкія фільмы, дык зала была перапоўнена.

Не прыязджала кіно зімою. І гэта зразумела. Завеяная снегам дарога не дазваляла на гэта. Але з кожнай вясною зноў людзі захапляліся фільмамі. Сёлета кінаперасоўка не прыязджае да нас. Відавочна, забыліся, што існуе вёска Коматаўцы, якая вельмі чакае гэтых культурных мерапрыемстваў. Вось таму гэтым шляхам прыпамінаем і чакаем на вас, паважаныя працаўнікі кіно.

**Чытачы «Нівы»**
з Коматаўцаў



## Сардэчныя тайны

Дарагое **Сэрцайка!**

Хачу напісаць некалькі слоў пра сябе і прасіць парады.

Маю 18 год. Жыву ў вёсцы С. Пакахала я хлапца, які нядаўна прыехаў у суседнюю вёску. Ён працуе ляснічым. Вельмі спадабаўся ён і маёй маме. Спачатку ён прапанаваў мне шлюб, але, што дзіўна, на забаве, як я заўважыла, ён часта не звяртае на мяне ўвагі, гуляе і адводзіць іншых дзяўчат. А потым зноў прыходзіць да мяне і прапануе жаніцца.

Дарагое «Сэрцайка», парай, што рабіць: выходзіць за яго замуж ці пакінуць. Баюся, што ён трохі адукаваны, а я маю толькі 7 класаў. Але шчыра яго кахаю і цяжка мне яго забыць.

Чакаю хуткага адказу
**Лена** з Гайнаўскага пав.

Дарагая **Лена!**

Па-першае хачу табе сказаць, што я не вельмі за тым, каб у 18 год выходзіць замуж. Гэта зарана. Шкода прыгожых дзявочых кароткіх год, а таксама і выбраць сабе добрага мужа ў такіх гадах цяжка. Найчасцей такія маладыя памыляюцца. Што датычыць парады, адказваю ахвотна. Мне здаецца, што нічога дрэннага ў тым, што твой хлапец на забаве не танцуе з табой, а з другімі. Мабыць, (толькі ты не абражайся), ты не вельмі добра танцуеш, а твой хлапец — добра. Вось таму можа прасіць да танца іншых дзяўчат. Але не падабаецца мне, што ён адводзіць дадому іншых дзяўчат. Так быць не павінна. Ён можа з іншымі танцаваць, але павінен памятаць, што дадому ісці можа толькі з табою, а і на зале памятаць, што ты пры ім, і апекавацца табою. Тое, што ён прапануе жаніцца, выглядае зусім паважна. І толькі на падставе гэтага я думаю, што ён таму гуляе з другімі дзяўчатамі, што ты не ўмееш добра танцаваць. Бо нашто бы тады ён прапанаваў табе жаніцьбу. Мне на падставе твайго лісту цяжка сказаць напэўна, ты сама павінна вычуць яго адносіны да цябе і да іншых. Ты павінна дабіцца ад яго сама, каб прызнаўся, чаму ён так паступае, з якой прычыны. Я толькі табе падказала, што гэта можа быць ад таго, што ты дрэнна танцуеш. Але калі ты добра ўмееш танцаваць, тады ўжо мне яго паступкі не падабаюцца. Можа танцаваць з іншымі, але ў меру. А тое, што ты скончыла толькі 7 класаў, гэта не бяда. Ты можаш карэспандэнцыйна скончыць 11 класаў, абы толькі хацела вучыцца.

Жадаю ўсяго добрага
СЭРЦАЙКА

«Хачу цябе запытаць, ці праўда, што не дадуць шлюбу, калі хлапец не мае 21 года? Пазнаёмілася з Лешкам, які яшчэ не быў у войску. Я таксама вельмі маладая. Ён запрапанаваў мне жаніцца, але я не ведаю, ці запішуць у 18 год. Калі не, Лешак просіць, каб на яго чакала, пака прыдзе з войска. Парай як найхутчэй», — піша да нас Міра з мястэчка.

У гэтым годзе яшчэ дадуць шлюб, калі хлапец мае 18 год. Пастанова аб тым, што хлапец мусіць мець 21 год, а дзяўчына 18, увойдзе ў жыццё ў студзені 1965 года. Але Лешак мае рацыю, каб ты чакала, пакуль скончыць вайсковую службу. Таму раю з усяго сэрца чакаць на Лешка, але не браць шлюбу перад войскам.

**Сэрцайка**

## КІНО

**Праграма на 9—14.VI.1964 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Drugi tor" (NRD), 9—11. „Szesnasta wiosna" (radz.), 12—14.

**Кляшчэлі**
„Biedna ulica" (bułg.), 9—11. „Przemytnik z Piemontu" (franc.), 12—14.

**Дубіны**
„Ballada huzarska" (radz.), 13—14.

**Нараўка**
„Zbrodniarz i panna" (polski), 10—14.

**Чаромуха**
„Następcy tronów" (włoski), 9—11. „Spieniony nurt" (rumuński), 12—14.

**Чыжы**
„Krążownik szos" (franc.), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Jak być kochaną" (polski), 10—14.

**Бранск**
„Samotność długodystansowca" (angl.), 9—11. „Druga młodość cioci" (węgierski), 12—14.

**Орля**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 10—14.

**Райск**
„Weekendy" (polski) 10—14

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Jedyna szansa" (radz.), 9—11. „Dwa żebra Adama" (polski), 12—14.

**Супрасль**
„Krzesiwo" (NRD), 9—11. „Zdobywcy nieba" (radz.), 12—14.

**Чорна Беластоцкая**
„Śniegi w żałobie" (USA), 9—10. „Biały obłok" (czeski), 11—12. „Wiano" (polski), 13—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Diabelska przepaść" (czeski), 9—11. „Śmierć nazywa się Engelchen" (czeski), 12—14.

**Мілейчыцы**
„Znów ku gwiazdom" (radz.), 9—11. „Przemytnik z Piemontu" (franc.), 12—14.

**Нурэц**
„Gwiaździsty bilet" (radz.), 9—11. „Dwa żebra Adama (polski), 12—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Komiczny świat Harolda Lloyda" (USA), 9—11. „Ludzie i bestie" I s. (radz.), 12—14.

**Сухаволя**
„Jutro na orbitę" (radz.), 9—11. „Sąd" (radz.), 12—14.

**Шудзялава**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 10—14.

**Янаў**
„Wyprawa w Tatry Słowackie" (czeski), 9—11. „Nieletni świadek" (angl.), 12—14.

**Сідра**
„Zwycięstwo nad Wołgą" (radz.), 9—11. „Gdzie jest generał" (polski), 12—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Opowieść o prawdziwym człowieku" (radz.), 13—14.

**Новы Двор**
„Sprawa Niny B" (franc.), 13—14.

**Ружаны Сток**
„Jazz, jazz, jazz" (angl.), 9—10. „Gorączka w El Pao" (franc.), 11—12. „Lata bez marzeń" (węgierski), 13—14.

У днях 9—14 у мясцовасцях Нараў і Гарадок фільмы высвятляцца не будуць.

---

**які вынесены быламу гаўптману нямецкай арміі Генрыху фон Гольдрынгу, — расстрэл за ўзброены напад на салдата акупацыйнай арміі. Мусім аддаць належнае нябожчыку: перад смерцю ён паводзіў сябе прыстойна, як і належыць афіцэру. Сказаць якоенебудзь перадсмяротнае жаданне Гольдрынг адмовіўся, толькі папрасіў цыгарэту ў доктара, які прысутнічаў у час расстрэлу».**

**— А зараз якая гадзіна? — запытаў Генрых і адчуў, як кроў хлынула да твару. Нават голасу свайго не пазнаў — ён гучаў хрыпла і глуха.**

**Асвяціўшы праменнямі ліхтарыка цыферблат наручнага гадзінніка, поп сказаў:**

**— Без дванаццаці чатыры.**

**— Выходзіць, па-мойму, пэўна — у нашым з вамі распараджэнні гадзіна і дванаццаць хвілін. Пагадзіцеся, пан отча, што для смертніка цэлая гадзіна і ў дадатак дванаццаць хвілін — тая ж вечнасць. Ці не так?**

**— Не будзем траціць час на марныя спрэчкі, сын мой! У нас надта мала часу, каб марнаваць яго на дыскусіі. Выкарыстаем лепш на тое, каб дастойна падрыхтавацца да пераходу ў іншы свет...**

**— Вы хочаце, каб я спавядаўся?**

**— Так.**

**— Мушу вас расчараваць, пан отча. Калі б я нават згадзіўся спавядацца, то найбольшым грэхам сваім, у якім я зараз нават ахвотна каюся, я меў бы на ўвазе тыя, што не задушыў уласнымі рукамі тую агідную жабу, якая носіць імя айца Фоція. Так, гэта, мой грэх і я ў ім каюся.**

**— О, калі б ты, сыне мой, ведаў, які гэта страшны чалавек! — вырвалася ў папа.**

**— Вось бачыце, і вы са мной згодны?**

**— Не, я не кажу, што яго трэба пазбавіць жыцця. Але ты зразумеў сутнасць душы таго чалавека... Гэта ж ён выцяг мяне з лагера палонных савецкіх салдат**

23

**і прымусіў адзець гэтую расу, каб я выконваў па яго ўказках чорную брудную работу сярод насельніцтва Палтавіі! Гэта ён вінаваты ў тым, што я вымушаны быў уцячы з родных месц, кінуць сям'ю невядома як, каб эміграваць у чужыя краі, пакутаваць тут... У, гадзіна!**

**— А я думаў, што вы яго сябар!**

**— Сябар? О, не! Ён яшчэ адкажа мне за ўсё... І да цябе ён прыслаў мяне, каб я пасяліў у цябе хоць якую надзею. Фоцій вельмі баіцца, што не атрымаецца задуманага спектакля...**

**— Спектакля? Якога?**

**— З тваім расстрэлам.**

**— Нічога не разумею...**

**— Мала хто з афіцэраў згаджаецца на прапанову Фоція ехаць у заходнія вобласці Украіны. Вайна ўсім абрыдла, і ўсе жадаюць і думаюць пра мір і адпачынак. Фоцію і ўзбрыло на думку расстраляць хоць каго з тых, хто вагаецца.**

**— Для чаго?**

**— Каб уплываць на іншых.**

**Генрых толькі свіснуў. Астатнія словы папа пераканалі яго, што найменшай надзеі на якійсьці паратунак няма...**

**— Яны ўсе будуць прысутнічаць у час расстрэлу...**

**— Прабачце, прабачце, пан отча! Але ў газеце напісана, што я прыняў смерць дастойна, як і належыць афіцэру?**

**— Гэтую заметку Фоцій прадыктаваў журналістам сам. Для чаго — не ведаю.**

**— Ну што ж, дзякую, пан отча, і за гэта...**

**— Слухайце, Генрых, ці як вас там. Паверце мне: я**

24

**не хацеў бы, каб ён адбыўся зараз.**

**— Я таксама таго не хацеў бы, але...**

**— Вось бачыце! — голас папа прагучаў урачыста. У руках ён трымаў ампулку. — Досыць яе калупнуць — і вы засынаеце, ціха і без болю.**

**— Каб ніколі не прачнуцца?**

**— Так!**

**— Генрых узяў ампулку і адчуў на ёй цяпло пальцаў, якія яе толькі што трымалі.**

**«Няўжо ў мяне такія халодныя рукі? — мільганула думка.**

**...Генрых стаяў каля акна і не зводзіў вачэй з маленькай ампулы. У шэрым золку світання яна цьмяна паблісквае, але Генрыху здаецца, што гэта ў ёй схавана скупое святло дня, што нараджаецца. Яго апошняга дня... Трэба пазбыцца гіпнозу гэтага маленькага прадмета, інакш ён утраціць уладу над сабой. Лепш глядзець у акно... Ён адводзіць погляд ад ампулы і глядзіць на дзверы турмы. Насупраць камеры каля глухой цаглянай сцяны перагаворваліся людзі ў вайсковай форме і цывільнай вопратцы. Яны стаяць двума радамі.**

**— А пасярэдзіне паставяць мяне! — уголас кажа Генрых.**

**Міжволі ён глядзіць на гадзіннік. Без чвэрці пяць.**

**І раптам, не вагаючыся, не раздумваючы, глытае ампулу.**

**«А можа не трэба было?»**

**Нейкую хвіліну ён стаіць, напружыўшы кожны мускул свайго цела, і раптам пачынае адчуваць, як мускулы паволі слабеюць і мякчэюць. Павекі няўмольна наліваюцца свінцом... Генрых робіць крок убок і падае на ложак.**

**(Працяг за тыдзень)**

25

